Беларуская маладзежная газета



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

24 снежня 1994 г.
Субота
№ 139 (13856)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года

## Кур'ер "ЧЗ"

### ПРЭЗІДЭНТ СУСТРЭНЕЦЦА З МОЛАДДЗЮ

*Сустрэча прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі з прадстаўнікамі маладзёжных грамадскіх арганізацый і студэнцтва адбудзецца 26 снежня ў Доме ўрада.*

Размова ў час сустрэчы пойдзе аб самых актуальных праблемах моладзі: стварэнні асобнага "маладзёжнага" міністэрства, увядзенні ў дзеянне закона аб альтэрнатыўнай службе, матэрыяльных ільготах маладым.

БЕЛІНФАРМ.

### БЕЛАЯ ТРЭШЧЫНА НА ПАПЕРЫ І Ў ПАЛІТЫЦЫ

*Тое, што газета "Советская Белоруссия" прыкметная сярод іншых выданняў, відаць, не трэба тлумачыць. Аднак адна нават маленькая трэшчына ў палітыцы здольна прывесці да разбурэння цэльнай канструкцыі, у тым ліку і газетнай. Нешта накшталт гэтага і атрымалася ў жыцці калектыву рэдакцыі, калі 22 снежня пад назвай артыкула: "Коррупция: на круге втором?", дзе павінна было друкавацца выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутата Сяргея Антончыка, замест яго раскрылася трэшчына. Чаму яна з'явілася? Хто вінаваты? На гэтыя пытанні і даў тлумачэнні галоўны рэдактар выдання Ігар Асінскі, які правёў у пятніцу, 23 снежня, прэс-канферэнцыю для беларускіх і замежных журналістаў.*

Ён, у прыватнасці, сказаў, што адмовіўся друкаваць выступленне С.Антончыка начальнік друкарскага цэха, спасылаючыся на тое, што ёсць, маўляў, указанне з адміністрацыі прэзідэнта. Аднак да гэтага часу невядома, хто ўзяў смеласць аддаць распараджэнне. Газета ж не магла не выйсці, бо ў такім разе давялося б плаціць калектыву няўстойку, бо акрамя матэрыялаў была рэклама. У выніку і з'явілася трэшчына: журналісцкая праца аказалася сізіфавай, а чытачы не атрымалі дакладнай інфармацыі аб падзеях на сесіі, дзе ў выступленні дэпутата С.Антончыка, мяркую, прыводзіліся важныя факты.

Дык ці ўбачыць жа свет выступленне дэпутата С.Антончыка? Гэта пытанне хвалюе не толькі чытачоў газеты "Советская Белоруссия", але і іншых выданняў, з некаторымі з якіх, дарэчы, на наступны дзень паўтарылася тая ж сітуацыя.

Валянцін БАРЫСЕВІЧ.

*Нашы чытачы, відаць, ведаюць ужо, як развіваліся падзеі, звязаныя з вышэйназванымі фактамі, на ўчарашнім пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. А тым часам, як паведаміў Белінфарм, пракуратура Рэспублікі Беларусь пачала праверку па факту неапублікавання ў сродках масавай інфармацыі рэспублікі даклада дэпутата Вярхоўнага Савета Антончыка аб карупцыі ў адміністрацыі прэзідэнта.*

*На даным этапе праверкі пракуратурай вядуцца гутаркі з галоўнымі рэдактарамі вядучых беларускіх газет.*

### ЦАЦКА — ГЭТА ЎЖО РАСКОША...

*Сёння многія нашы заводы, што працавалі на "абаронку", пачалі выпускаць тавары народнага спажывання. Сярод іх невялікае месца заняў выпуск дзіцячых цацак. Але і яны часам не знаходзяць попыту. І не таму, што дзеці не цягнуцца да іх. Проста ў бацькоў няма сродкаў для такой "раскошы".*

Так, за мінулы месяц на Віцебскі завод радыёдэталяў паступіў заказ толькі на некалькі дзесяткаў дзіцячых цацак, а завод выпусціў іх ажно пяць тысяч. Як кажуць, прыляцелі.

Яўгенія ВІЦЬБА.

### БУДЗЕ ПОМНІК... ВІЛЕНСКАМУ ШЛЯХУ

*З Мінска ў Вільню ён праходзіць па маладзечанскай зямлі. Таму і невыпадкова на пасяджэнні маладзечанскага райвыканкама вырашана паставіць помнік гэтаму старажытнаму гасцінцу.*

Помнік шляху стане напамінам усім, хто будзе тут ехаць, што трэба шанаваць і берагчы гісторыю роднай Беларусі, ганарыцца яе слаўнымі героямі.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### АПРАНАЮЦЬ ГАЛАНДЫЮ

*працаўнікі Гомельскай гандлёва-прамысловай фірмы "8 Сакавіка".*

40 тысяч адзінак верхняга адзення з прыгожай тканіны адпраўлена на адрас галандскай гандлёвай фірмы "Вінэр", на чарзе — яшчэ каля ста тысяч вырабаў. Такое супрацоўніцтва з замежным партнёрам дазволіць гамяльчанам набыць новае абсталяванне, абнавіць і мадэрнізаваць вытворчасць, што дае надзею спадзявацца: пасля галандцаў будзем апранацца і мы, беларусы.

Васіль БАРХАНАЎ.

### Курсы валют на 23 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 10340 | 10640 | 6561 | 6798 |
| "Алімп" | 10350 | 10600 | 6550 | 6795 |
| "Дукат" | 10300 | 10650 | 6500 | 6680 |

## ТЭЛЕГРАМА Ў НУМАР

Старшыні калгаса "Чырвоная змена" Шаплыка К.І.

*"Паважаны Кузьма Іванавіч! Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена", членам рэдкалегіі якой Вы з'яўляецеся, шчыра віншуе Вас з 50-годдзем працы на пасадзе старшыні калгаса "Чырвоная змена". Зычым здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

Калектыў рэдакцыі.

*Кузьма ШАПЛЫКА:*

# "Сялянскаму сыну без зямлі нікуды"

Верны да канца вяскоўцам старшыня калгаса "Чырвоная змена" Любанскага раёна К.І.Шаплыка, які 50 гадоў назад быў выбраны на гэтую пасаду.

Калі размова заходзіць пра заўтрашні дзень вёскі, Кузьма Іванавіч згаджаецца:

— Правільна, і калгасы, і фермеры маюць права на існаванне, няхай гаспадараць побач, спаборнічаюць. І калі ў вольных сялян лепш атрымаецца, пойдзем іх дарогай.

А ў вачах яго няцяжка прачытаць: "Дык куды ж наш вясковец без калгаса? Хто ж, паспрабаваўшы калектыўнага жыцця, добраахвотна ярмо аднаасобніка на шыю накіне?" Кожная страла, справядліва ці не, пушчаная ў бок калгаса, болем аддаецца ў сэрцы Кузьмы Іванавіча. Бо калгас — гэта дзіця ветэрана, якое расло, мужнела яго розумам, ідэямі, працай. А хто ж дзіця сваё ў крыўду дасць?

Калі Любаншчыну ачысцілі ад гітлераўцаў, Кузьма Шаплыка нікольскі не сумняваўся, што пойдзе на фронт, каб, як тады гаварылі, "дабіць фашыста ў яго бярлозе". Як жа інакш? Яму дваццаць восем гадоў. Баявы вопыт мае — разведкай у партызанскім атрадзе камандаваў. Але мясцовыя ўлады распарадзіліся інакш:

— Дабюць фашыстаў ужо і без цябе. Фронту, усёй краіне хлеб патрэбен. Ты да вайны брыгадзірам у калгасе працаваў. Значыць, у сялянскай справе не навічок. Так што, прымай усю гаспадарку...

Гучна сказана — гаспадарку. Калі сабралі тое, што засталося ад мясцовага калгаса, то налічылі ўсяго тры кані, чатыры каровы ды пяць авечак. Пра тэхніку, насенне і гаварыць няма чаго — што фашысты знішчылі, разрабавалі, да нечага і яны, партызаны, руку прыклалі, каб ворагу не дасталося. Вось і кармі фронт...

Але ўжо праз два-тры гады ў "Чырвонай змене" намеціўся рэзкі скачок у эканамічным развіцці. Усё пачалося з таго, што Кузьма Іванавіч неяк вярнуўся з райцэнтра, на пасяджэнне праўлення калгаса запрасіў лепшых працаўнікоў. Паведаміў:

— Атрымана важнае дзяржаўнае заданне: вырошчваць кок-сагыз! Гэта такі корань. Расце ў Цянь-Шані. З яго каўчук для прамысловасці атрымліваюць. Справа адказная, трэба падабраць самых сумленных, працавітых. Падабралі. Звеннявымі прызначылі Аляксандру Шаплыка і Пелагею Галай. Кузьма Іванавіч прывёз некалькі кілаграмаў насення, папярэдзіў:

— Беражыце: грам яго— даражэйшы за грам золата...

Жанчыны па некалькі маленькіх, нібы макавыя, зярняткаў кідалі ў радкі, загортвалі. Глебу папярэдне, зразумела, як след задыскавалі, пракаталі. І па чарзе дзяжурылі на тарфяніках — а раптам птушкі разграбуць, выдзеўбуць зярняткі. Потым палолі, матыкавалі. Уручную збіралі і насенне. Спяшаліся, бо яно амаль нічым не адрознівалася ад звычайных дзьмухаўцоў: падзьме ветрык — і паляцела, прапала "золата". Восенню трэба было выкапаць карэньчыкі, сабраць да аднаго. Кожны пачысціць, абрэзаць зяляніну. Ды акуратненька. Бо пашкодзіш — і пацячэ з ранкі дарагое каўчукавае малачко...

Спачатку з гектара збіралі па 35—40 цэнтнераў карэння. Потым — 60, нават 80 цэнтнераў! Рэкордны ўраджай не толькі для рэспублікі, а і для СССР. "Чырвоная змена" стала своеасаблівым навуковым і практычным цэнтрам па вырошчванню кок-сагызу. Як вынік, А.А.Шаплыка, П.І.Галай, механізатару Р.П.Сушчэні было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. У 1951 годзе Залатая Зорка Героя заззяла і на грудзях Кузьмы Іванавіча.

Вельмі многа цяжкай, карпатлівай працы патрабаваў коксагыз. Але за яго па тым часе нядрэнна і плацілі. "Чырвоная змена" пачала падымацца на ногі. Яе старшыня зачасціў у сталіцу. Да архітэктараў, будаўнікоў. Маўляў, трэба актыўней адбудоўваць разбураныя вёскі. Ды не прымітыўныя хаткі ляпіць, а сучасныя будынкі ўзводзіць, сродкі ёсць. У першую чаргу неабходна брацца за цэнтр калгаса, вёску Сарачы, якая стаіць на беразе ракі Арэса, апетай Янкам Купалам.

Адклікнуўся лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР архітэктар Г.В.Заборскі. Пры распрацоўцы праекта забудовы вёскі ён улічыў пажаданні калгаснікаў, іх кіраўніка і арганічна ўпісаў у архітэктурны ансамбль два блізкія іх сэрцу сімвалы: на адміністрацыйным будынку з сярпом злучыўся молат, а на Палацы культуры "вырас" колас.

— Кузьма Іванавіч, у калгасе ты, здаецца, ужо дасягнуў усяго, — не раз гаварылі К.І.Шаплыку ў райцэнтры і Мінску. — "Чырвоная змена" — адна з лепшых гаспадарак рэспублікі, пераможца Усесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва, узнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Сам — Герой, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі рэспублікі, для ордэнаў, медалёў на пінжаку хутка месца не будзе... Ці не пара табе паспрабаваць сілы ў раённым, абласным маштабе? Пры тваіх здольнасцях, аўтарытэце далёка пайсці можаш.

Кузьма Іванавіч толькі адмахваўся.

— Рэдкавічы, Шыпілавічы, Арлёва, Чачэнск, Азярное — таксама вёскі нашай гаспадаркі, трэба і там стварыць людзям нармальныя ўмовы для жыцця, наконт гэтага многа планаў ёсць, — і часта старшыня дабаўляў: — Ды і куды мне, сялянскаму сыну, ад зямлі?

Можна доўга пералічваць усё, што з"явілася на беразе Арэсы дзякуючы энергіі, ініцыятыве К.І.Шаплыкі і працавітасці калгаснікаў. Але галоўнае, думаецца, тое, што сваімі арганізатарскімі здольнасцямі Кузьма Іванавіч дапамог многім людзям самым лепшым чынам праявіць сябе на роднай зямлі. Аднак самых добрых слоў заслугоўвае прыклад самога Кузьмы Іванавіча, які літаральна кожны дзень свайго жыцця прысвяціў роднай зямлі, землякам.

— Для нас Кузьма Іванавіч — нібы жывая легенда, і ў складанай жыццёвай сітуацыі мы ў першую чаргу імкнёмся параіцца з ім, — гаворыць кіраўнік упраўлення сельскай гаспадаркі Ф.У.Арціменя. — Дзе яшчэ знойдзеш чалавека з такім багатым вопытам селяніна, арганізатара? Калі б такіх людзей, да канца верных сваёй ідэі, сваёй зямлі, было пабольш, наколькі б лепш мы жылі! Таму ад усёй душы хочацца павіншаваць ветэрана са знамянальнай датай, пажадаць яму выдатнага здароўя і многіх гадоў жыцця.

А што думае ў гэтыя дні сам кіраўнік "Чырвонай змены", якому, дарэчы, менш як праз два гады стукне 80?

— Мабыць, я адзін падобны дурань у былым Саюзе, які ў такім узросце яшчэ працуе, — быццам бы сур'ёзна гаворыць Кузьма Іванавіч, а ў вачах — вядомая многім шаплыкаўская хітрынка. — Канешне, маладым дарогу трэба ўступаць...

І тут жа з трывогай у голасе пачынае скардзіцца, што восенню ніякага паратунку не было ад зладзеяў, якія панадзіліся капаць дармавую калгасную бульбу. Што збажына на былых тарфяніках сёлета моцна вымакла, і яны змаглі намалаціць толькі каля 30 цэнтнераў з гектара. Што празмерна вялікія падаткі з вяскоўцаў скубуць...

Нарэшце, адмахнуўшыся ад нядобрых успамінаў, з задавальненнем адзначае, што як бы там ні было, а іх Галіна Шпакоўская, Лідзія Бубіч з пачатку года ад кожнай каровы больш як па 3.500 кілаграмаў малака надаілі. "Чырвоная змена" разам з вяскоўцамі штодзённа прадае да 20 тон малака, лічы, адна райцэнтр карысным прадукцыяй забяспечыць можа. Што і ў гэты нялёгкі час гаспадарка імкнецца абысціся ўласнымі сродкамі, без крэдытаў, даўгоў...

Уладзімір БЫЧЭНЯ.



## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт"




*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### МЕЖЫ ЛІКВІДУЮЦЦА

*Камісія Еўрапейскага Саюза прыняла рашэнне з сакавіка 1995 года адмяніць мытны кантроль на межах буйных дзяржаў Еўропы: Германіі, Францыі, Іспаніі, Партугаліі і краін Бенілюкса (Бельгіі, Нідэрландаў і Люксембурга).*

Такім чынам, будзе зроблены яшчэ адзін важны захад для збліжэння Еўропы. Праверкі аўтамабіляў спыняюцца з 1 сакавіка, а пасажыраў — з 26 сакавіка.

### СУСТРЭЧА МІНІСТРАЎ

*У Боне адбылася сустрэча міністра замежных спраў Германіі Клаўса Кінкеля і яго французскага калегі Алена Жупэ.*

Міністры паведамілі, што напачатку студзеня Еўрапейскае Супольніцтва ладзіць нараду, якая будзе прымеркавана барацьбе з беспрацоўем. Удзельнікі сустрэчы разгледзяць таксама магчымыя шляхі вырашэння канфлікту ў Босніі.

### "КРЫЖАВАНЫ" АБСТРЭЛ

*Ізраільскі верталёт перасек зону бяспекі Лівана і абстраляў аўтамабіль.*

Двое паліцэйскіх, якія знаходзіліся ў ім, загінулі. Праз некаторы час пасля абстрэлу быў учынены напад з боку Лівана, у выніку чаго забіты ізраільскі паліцэйскі, 5 чалавек паранена.

### У ПОШУКАХ КІРАЎНІЦТВА

У Італіі пасля падачы ў адстаўку прэм'ер-міністра Сільвіо Берлусконі склалася крызісная сітуацыя.

Лідэры італьянскіх партый збіраюцца на нараду, якая будзе мець працяг пасля Калядаў.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

БІЗНЕС-КЛАС

## ТАЛІН – РАЙ ДЛЯ АЎТАБІЗНЕСУ?

Вось ужо некалькі гадоў прасочваецца тэндэнцыя да перамяшчэння цэнтра пры куплі аўтамабіляў інамарак з Заходняй Еўропы ў Эстонію.

Гэта не значыць, што нашы аўтабізнесмены перасталі ажыццяўляць ваяжы ў Галандыю і Германію. Занадта відавочная выгада ад такіх паездак. Там патрыманы аўтамабіль можна набыць за 200—700 даляраў, а прадаць у Беларусі за 2000— 5000 баксаў. Але ўсё больш папулярным становіцца гнаць машыны з блізкага замежжа, той жа Эстоніі.

У параўнанні з Беларуссю і Расіяй эстонскія цэны на аўтамабілі можна назваць вельмі нізкімі. Напрыклад, "Джып" з серыі "Чарокі" там прадаецца за 12—15 тысяч даляраў, а ў нас ён свабодна ідзе за 40 тысяч "зялёненькіх". Праўда, у сабекошт машыны, набытай на тэрыторыі Эстоніі, увойдзе 35 працэнтаў мытнага падатку, ды і кошт перагону складае 1,5 эстонскай кроны за кіламетр, але ўсё роўна навар у аўтабізнесменаў атрымліваецца немалым, а даставка намнога менш клопатная, чым перагон з Галандыі.

Заўважана, што самая надзейная ахова ў час перагону — з інкасатарам. "Крутыя" хлопцы з АМОНа, прыватных дэтэктыўных службаў ці рэкету менш надзейныя. У апошні час увайшоў у моду такі арыгінальны спосаб аховы ў час перагону машын з Прыбалтыкі: на кожным пасту ДАІ бізнесмены наймаюць суправаджэнне да наступнага паста. Паліцыя за памяркоўную плату ахвотна ідзе на гэта.

Паводле неафіцыйных звестак, каб адвезці машыну ў Мінск, трэба заплаціць рэкету даніну ад 100 да 500 даляраў, у залежнасці ад тыпу аўтамабіля. Прыкладна такую ж суму могуць запатрабаваць з пакупніка. Пры куплі некаторыя бяруць з сабой работніка міліцыі, але рэкеціры ў такіх выпадках проста высочваюць пакупніка да яго кватэры, а потым наносяць "візіт ветлівасці".

Увогуле, аўтабізнес — справа небяспечная, клапатлівая, займаючыся якой, прыходзіцца часта раскашэльвацца. Але ўсё роўна вельмі выгадная: па прыбытковасці — другі від бізнесу пасля гандлю наркотыкамі.

Вось толькі некаторыя даныя пра розніцу цэн на аўтамабілі ў Таліне і Беларусі, Расіі: "Таёта Карола Эфікс" у сталіцы Эстоніі каштуе 8600 даляраў, "Таёта Селіка" (спартыўная) — 13700 даляраў, "Джып 4 Чыпер" — 12500 даляраў. Прадаць жа іх у Беларусі можна адпаведна за 18, 25 і 35 тысяч баксаў. Так што, аўчынка варта вырабу.

**Падрыхтаваў Б.САФРОНЕНКА.**

## НА "ЕЎРАПАРТЭНАРЫЯТ" ТРЭЦІ РАЗ

Каля ста прадстаўнікоў прадпрыемстваў і фірм сярэдняга і малога бізнесу Беларусі прыме ўдзел у міжнароднай сустрэчы дзелавых колаў, арганізаванай еўрапейскім супольніцтвам у рамках праграмы "Еўрапартэнарыят", якая адбудзецца вясной будучага года.

"Нацыянальная дэлегацыя Беларускіх прадпрымальнікаў рыхтуецца ў трэці раз удзельнічаць у такім мерапрыемстве. Яно пройдзе ў Германіі, у Дортмундзе, — адначыў нацыянальны саветнік праграмы "Еўрапартэнарыят" у Рэспубліцы Беларусь, прэзідэнт саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін, выступаючы на інфармацыйным семінары 22 снежня. — Папярэднія сустрэчы, якія прайшлі ў польскім горадзе Гдыня і іспанскім Більбао, паказалі, наколькі яны эфектыўныя ў пошуках дзелавых кантактаў па ўсяму свету".

Дваццаці лепшым прадпрыемствам — пераможцам конкурсу, які будзе арганізаваны ў рамках саюза прадпрымальнікаў і беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў, прадугледжваецца поўнасцю кампенсаваць затраты па ўдзелу ў міжнароднай сустрэчы.

**БЕЛІНФАРМ.**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# Адступаць няма куды

*Усе мы чакаем ад рэформ, што праводзяцца ў краіне, палёгкі. На жаль, сітуацыя ў эканоміцы да лепшага пакуль не мяняецца: па-ранейшаму прастойваюць фабрыкі-заводы, лютуе інфляцыя, якая разам з высокімі цэнамі на тавары і паслугі пажырае вартасць "зайчыкаў". Аднак... Аднак, як засведчыла нядаўняя прэс-канферэнцыя, мэтай якой было паведаміць журналістам аб выніках перамоў нашай дэлегацыі з кіраўніцтвам Міжнароднага валютнага фонду, адступаць няма куды. Трэба няўхільна рухаць эканамічныя рэформы ўперад.*

Аб неабходнасці паскарэння рэформ, пераліву капіталаў у сферу вытворчасці гаварылі віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясніковіч, старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, намеснік міністра фінансаў Мікалай Румас.

Як падкрэсліў, у прыватнасці, Міхаіл Мясніковіч, да клопатаў дэлегацыі атрымаць фінансавую падтрымку для дальнейшага правядзення эканамічных рэформ кіраўнікі многіх краін замежжа ставяцца з поўным разуменнем. Так, дасягнута дамоўленасць з МВФ аб выдзяленні 385 і 200 мільёнаў даляраў выдзяляць іншыя краіны. Акрамя таго, ёсць спадзяванне, што істотную падтрымку ў абраным кірунку акажуць нам Японія і Швецыя. Але Міжнародны валютны фонд, Сусветнае супольніцтва выказалі свае патрабаванні адносна тэмпаў рэформы, зніжэння інфляцыі. Яны патрабуюць хутчэйшага ажыццяўлення прыватызацыі дзяржмаёмасці; выказваюць незадаволенасць тым, што пэўная частка выдаткаванай раней сумы ў 220 мільёнаў даляраў накіравана не на правядзенне рэформ, а на структурныя пераўтварэнні. Станоўчым жа фактам, выклікаючым давер, з'яўляецца тое, што наша краіна выйшла на бягучую аплату даўгоў Еўрапейскаму супольніцтву і за энерганосьбіты.

І ўсё ж праблем у рэгуляванні рыначных адносін шмат, асабліва ў частцы цэнаўтварэння, аздараўленні крэдытна-фінансавай сістэмы. На гэтых пытаннях спыніўся старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. Ён, у прыватнасці, падкрэсліў: калі мы не створым у краіне здаровага канкурэнтаздольнага асяроддзя, то нічога талковага не будзе. Што тычыцца работы банкаў, то Станіслаў Багданкевіч канстатаваў аб павышэнні ставак па тэрміновых дэпазітах, дзе кожны ўкладчык атрымае значна большыя сумы. У далейшым стаўкі па дэпазітах будуць улічвацца адносна памераў інфляцыі.

У заключэнне Мікалай Румас, Станіслаў Багданкевіч адказалі на пытанні, хвалюючыя журналістаў, а віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясніковіч яшчэ раз падкрэсліў, што прадстаўнікі Сусветнага супольніцтва, МВФ спадзяюцца, што працэс эканамічных рэформ у нашай краіне набярэ больш высокія тэмпы.

**Іра ЯКАЎЛЕВА, студэнтка факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.**

ДЗЕЦІ І МЫ

# Трава на абочыне

□ **Лілія КРАПІВІНА, "ЧЗ"**

*Сённяшнія хваробы вялікіх гарадоў з іх норавамі і ростам злачыннасці добра вядомыя. А як там, далей ад шумных вуліц і праспектаў?*

*Невялікі гарадскі пасёлак Фаніпаль, што пад Мінскам, звязаны са сталіцай надзейнай электрычкай, што дае магчымасць яго жыхарам штодзень ездзіць на працу у Мінск. Часу займае не больш, чым дабрацца ад цэнтра на ўскраіну сталіцы. Настаўніца мясцовай школы расказвала, як яны з мужам, перабраўшыся з Расіі, шукалі ў Мінску работу, спадзяваліся на жыллё. Выпадкова падказалі ім пра Фаніпаль, і для іх гэта быў ідэальны варыянт. Цяпер яе муж паспявае з электрычкі на першую змену на "Інтэграл", а яна вучыць у вясковай школе. І жывуць сабе ў добрай кватэры ў Фаніпалі. У Мінску такога жылля ці дачакаліся б?..*

Пра прыгарадныя пасёлкі ў народзе так гавораць: ад вёскі адарваліся, але і да горада не прысталі. Пасуцца ля тратуараў козы, авечкі, а ў гастраноме — чарга за разлўным малаком, тварагом.

Для мяне прыналежнасць месца да "вялікай цывілізацыі" заўсёды атаясамліваецца з наяўнасцю тут школы. А ў Фаніпалі іх нават дзве, ёсць планы і на будаўніцтва трэцяй. Пасёлак малады, таму і дзяцей многа.

Усіх — і дзяцей, і дарослых— падзяляюць тут на мясцовых— і прыезджых.

— Няхай ужо выбачаюць яны мне, але гэтыя прыезджыя, што тое перакаці-поле, — сумна дзеліцца сваімі вывадамі дырэктар сярэдняй школы № 1 Аляксандр Сінякевіч. — Гэта ж не чарнобыльцы, не бежанцы з Усходу, а часцей за ўсё сюды трапляюць неўладкаваныя сем'і, што блукаюць у пошуках работы і жылля. Некаторыя не збіраюцца тут пускаць карані, не бяруцца самі будаваць сабе які кут, а чакаюць гатовага. Не атрымаюць усяго адразу — здымаюцца з месца і далей едуць. А як неўпарадкаваны дом, то і душа не ў парадку. І вядома ж, дзеці. У нашай школе такіх многа. Часцей за ўсё, з няпоўных сямей, дзе адна маці або з айчымам, у якога з падлеткам складаныя адносіны. Але самае горшае — гэта сем'і, дзе п'юць абое — і маці, і бацька. Дзеці недагледжаныя, прыходзяць на ўрокі галодныя. Часам, здараецца, уцякаюць яны з такога дому, а бацькі і не схамянуцца, пакуль настаўніца не прыйдзе, не спытае, чаму сын у школу не ходзіць.

Нядаўна прыйшоў да Аляксандра Зянонавіча васьмікласнік. Цяжкая была размова: не пра "двойкі" гаварылі — прасіў хлопец адпусціць яго са школы, хоча ўладкавацца на работу, дзе даюць інтэрнат. Дома жыць немагчыма, маці з айчымам усе грошы прапіваюць, няма на што купіць ежы. Што рабіць, як адпусціць падлетка на свой заробак? Суцешвае толькі, што той сам яшчэ ад роспачы да бутэлькі не прыкладваецца і пра работу думае, як пра выратаванне. Але хто можа гарантаваць, што там не зломяць дзіцячую кволую душу?

І паехаў дырэктар на тое прадпрыемства дамаўляцца сам...

Намеснік дырэктара школы Аляксандр Пінчук назваў яшчэ некалькі сумных прыкладаў. Як хадзілі на работу да адной маці, прасілі адміністрацыю паўздзейнічаць на яе, бо зусім не глядзіць дзяцей. Але там ад яе самой хацелі б пазбавіцца, каму патрэбна п'яніца...

Праз Фаніпаль праходзіць шаша Брэст — Масква, вельмі ажыўленая траса. І тут непадалёку матэль, дзе спыняюцца на адпачынак вадзіцелі шыкоўных інамарак. Памыць машыну, працерці вокны, заліць больш таннае "левае" паліва — паслугі на выбар прапануюць фаніпальскія школьнікі.

Некаторыя сюды, як на работу, ходзяць. Ого, якія заробкі яны тут маюць! "Яшчэ і бацькам, калі добрыя будуць, падарункі прынясу. Яны такога за месяц не заробяць, што я тут за дзень", — прызнаецца мой новы знаёмы 14-гадовы Жэня. "Маці спачатку "пілавала" мяне, ад настаўнікаў, як на вуліцы сустрэну, уцякаў, а цяпер — не". "Грошы свае маю, што мне яшчэ трэба?" — гэта "шчырасць" яго-нага сябра Валеры. Сапраўды, пералічыць вусна даляры на "зайчыкі" — чым не ўрок матэматыкі. А ўзводзіць у ступень ды вылучаць квадратны корань — гэта ім пакуль не патрабуецца, гэтым няхай займаецца "кароль" матэля. Ёсць тут адзін такі, некаранаваны. І калі здараюцца разборкі, то дзеці за вялікія грошы б'юцца вельмі нават па-даросламу.

Дырэктар школы на чале камісіі па выхаваўчай рабоце з падлеткамі нават сам хадзіў да таго "караля" і прасіў яго з бацькоўскім болем у душы не калечыць дзяцей. Марная, наіўная справа!.. Дзеці, маўляў, самі сюды ідуць, ніхто іх не прымушае.

А да матэля, між іншым, пачалі ўжо прыходзіць і дзяўчынкі. Яны, канечне, не машыны мыюць, у іх іншыя "паслугі"...

Можна ўсё спісаць на цяжкі час, на сацыяльныя ўмовы і махнуць на ўсё рукой, маўляў, нічога ў гэтых дзецях ужо не зменіш. Але гэта святая наіўнасць і вера фаніпальскіх настаўнікаў у лепшае, у добрыя перамены падкупляе, дае надзею.

Расказвалі пра аднаго хлопца, з якім прыйшлося паваждацца школе. Таксама некаторыя не верылі, што вырасце з яго добры чалавек, казалі, навошта яго цягнуць на тое "поле цудаў" ці "салодкі стол", калі хлопец ужо даўно зведаў смак горкіх напояў. І хто ведае, ці сапраўды тыя цукеркі з салодкім чаем адагрэлі душу падлетка, ці што большае паўплывала на яго, але скончыў ён школу, зараз працуе, мае добрую сям'ю, выхоўвае сына. Дзякуй Богу, не спатыкнуўся на той слізкай шашы. Гэта ён адзін, а як жа астатнія? Што будзе з імі?

А яны не хвалююцца. Той Жэня каля матэля сказаў: "Вы так глядзіце, быццам шкадуеце мяне. Гэта мне вас шкада, што не навучыліся і ўжо не навучыцеся жыць".

Ён упэўнены, што мае рацыю...

*Эксперыментальная выяўленчая студыя "Юны скульптар" адкрыта пры спарткомплексе мінскага вытворчага аб'яднання "Гарызонт". Пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, скульптара Івана Якімавіча Міско дзеці вучацца тут лепцы і малюнку. З цягам часу, калі будзе набыты ганчарны станок, дзеці змогуць далучыцца і да гэтага віду мастацтва.*

*— Галоўная мэта студыі,— гаворыць Іван Якімавіч,— абудзіць у дзіцяці як мага раней пачуццё цудоўнага, выхаваць яго эстэтычны густ і, вядома, выявіць таленавітых дзяцей. Я пастараюся даць фантазіі дзяцей поўную свабоду, каб кожны змог праявіць сваю індывідуальнасць у поўнай меры.*

*НА ЗДЫМКУ: Вольга ЧАРНАВУС з задавальненем займаецца ў выяўленчай студыі.*

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ.**

АДМЕТЫ ЧАСУ

# Дарога вядзе ў... ламбард

*Мне заўсёды ўяўлялася, што ламбард — гэта нешта змрочнае, накшталт магільніку рэчаў і надзей. Прычынай таму, мабыць, літаратурныя вобразы мінулага: знакаміты Габсек, старая працэнтшчыца ў Дастаеўскага і іншыя персанажы, а таксама іх няшчасныя кліенты — ахвяры абставін і лёсу, якія неслі ў ламбард апошнюю каштоўнасць, каб пакінуць яе там назаўсёды, атрымаўшы некалькі грошаў на жыццё... Часы тыя мінулі, а вось шыльда — вярнулася.*

У сучасным варыянце яна выклікала асацыяцыі, звязаныя з "камком" або з рэчавым базарам, дзе крутыя хлопцы і энергічныя жанчыны жвава надзяляюць грашовай наяўнасцю даверлівых наведвальнікаў.

Але, як кажуць, лепш адзін раз убачыць. Ламбард, у які я завітала, размясціўся ў досыць нечаканым месцы — сталічным магазіне спартыўных тавараў, што на праспекце Ракасоўскага. Зрэшты, нечаканасць гэта не большая, чым тая, што ад спецыялізаванага калісьці магазіна сёння засталася амаль што адна назва. Так што не варта ехаць сюды ў пошуках спартыўных футболак і тапачак. А вось калі хочаце падзівіцца на асартымент камерцыйных аддзелаў — калі ласка. Затрымалася ля прылаўка з таварамі ў яркіх, кідкіх упакоўках і з цэннікамі, якія аказваюць не менш ашаламляльнае ўражанне, і я, уздыхнуўшы, пайшла далей, пакуль у адным з аддаленых вугалкоў не ўбачыла шыльду, якая зацікавіла мяне.

Знаёмлюся з дырэктарам ламбарда Аленай Аляксееўнай Пестаравай. Вакол яе стала на імправізаваным прылаўку — розныя рэчы, вопратка, абутак.. Дарэчы, у камісійныя магазіны многія звяртаюцца, каб пазбавіцца ад лішніх, непатрэбных рэчаў. Ну, а сюды?

***— Алена Аляксееўна, вашы кліенты, хто яны? Людзі, якім катастрафічна не хапае сродкаў для існавання і яны проста вымушаны прыносіць сюды апошняе?***

— Не. Зусім не. Апошняе часам прыносяць хворыя на алкагалізм, якім не хапае на выпіўку. Яны так і гавораць: "На бутэльку". Але з імі мы стараемся ніякіх спраў не мець. Асноўны кантынгент нашых наведвальнікаў-кліентаў — гэта людзі, якія жывуць на зарплату. Чакаць палучкі, каб купіць, напрыклад, тыя ж боцікі, сёння не мае сэнсу — цэны ўсё роўна ўзляцяць раней. Пазычыць у каго-небудзь цяпер складана. Узяць крэдыт, як раней, — нерэальна. Вось тады чалавек бярэ што-небудзь з таго, што мае і прыносіць да нас, каб на нейкі час выкруціцца з грашыма, атрымаўшы задаткавую суму.

***— Колькі ж можна атрымаць тут за сваю рэч?***

— Мы прадастаўляем ссуду ў памеры 80 працэнтаў ад ацэначнага кошту. Ацэньваем адразу ж тут, на месцы. У нас працуюць выдатныя спецыялісты — таваразнаўцы, якія раскажуць вам пра вашу рэч амаль што ўсё, вызначаць якасць, матэрыял, вытворчую фірму і г.д.

***— Ці бываюць выпадкі, калі наведвальнікі не згодны з тым, у колькі вы ацанілі яго рэч?***

— Канешне, бываюць і незадаволеныя, але што зробіш? Мы абсалютна ўпэўнены ў кампетэнтнасці сваіх ацэншчыкаў, а што тычыць непаразумення з боку наведвальнікаў — ад гэтага, ведаеце, ніхто не застрахаваны.

***— Але ж тады ім прыходзіцца плаціць яшчэ і працэнты, прытым, відаць, не малыя?***

— 10 працэнтаў у дзень і 30 — у месяц. Шмат гэта ці мала? З улікам таго, што афіцыйны ўзровень інфляцыі ў нас складае цяпер каля 50 працэнтаў, на мой погляд, няшмат. Мы наогул стараемся ісці людзям насустрач, ствараем выгадныя для іх умовы. Напрыклад, чалавек, які ўжо звяртаўся да нас больш пяці разоў, становіцца нашым пастаянным кліентам. Ён ужо можа разлічваць на льготнае крэдытаванне.

У пацвярджэнне сваіх слоў Алена Аляксееўна паказвае мне сшытак-"алфавіт" з запоўненымі да канца старонкамі. Дадае:

— Апрача таго, калі хтосьці не прыйдзе па сваю рэч ў прызначаны дзень, праз месяц, мы не спяшаемся яе рэалізаваць, як гэта робяць некаторыя іншыя ламбарды. Трохі чакаем: ці мала якія абставіны здараюцца ў жыцці. Можа, чалавек захварэў ці не вярнуўся яшчэ з камандзіроўкі...

***— Цяжкасці здараюцца толькі ў вашых кліентаў?***

— На жаль, праблем хапае і ў нас. Бывае, напрыклад, што мы не ў стане выплаціць ссуду кліенту, паколькі проста не хапае грошай. Справа ў тым, што наш ламбард — адзін з трох у вытворча-камерцыйным прадпрыемстве "Вісэм"; гэта прыватнае прадпрыемства, таму ў сродках мы абмежаваныя. Да таго ж, падаткі ну проста дзікунскія — яны ў нас з'ядаюць 70 працэнтаў ад прыбытку. Гэта шмат...

***— І апошняе пытанне. Скажыце, а як асабіста вы ставіліся б да ламбарда, каб у ім не працавалі?***

Калі без прадузятасці, я ўпэўнена ў карыснасці гэткага прадпрыемства. Яно дае магчымасць цывілізаваным чынам выйсці з незайздроснага фінансавага становішча. Згадзіцеся, ці не разумней прыйсці ў ламбард замест таго, каб калець, стараючыся прадаць што-небудзь на Камароўцы?

На развітанне Алена Аляксееўна запрасіла мяне завітаць як-небудзь у ламбард яшчэ. А раптам што-небудзь з таго, што будзе ў продажы, мне спадабаецца? Кінуўшы дзяжурнае "дзякуй", я з сумам успомніла пра мізэрную студэнцкую стыпендыю. Праўда, крыху пазней, падумала: а калі разабрацца — гэта ідэя.

**Іра ЯКАЎЛЕВА.**

ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

## ПОГЛЯД ІНШЫ, А ДОКАЗЫ ДАЛЁКІЯ АД ПЕРАКОНВАЮЧЫХ

З цікавасцю чытаю ўсе артыкулы па гісторыі ў "Чырвонай змене". Асабліва люблю разбіраць матэрыялы з новымі нестандартнымі падыходамі да падзей нашага мінулага. Нядаўна "ЧЗ" ў рубрыцы "Сто артыкулаў з гісторыі Беларусі" змясціла артыкул "Даўняя бітва. Праўда і быль" супрацоўніка Інстытута гісторыі АН Беларусі, кандыдата гістарычных навук Міхаіла Спірыдонава. У ім аўтар выказвае ўласныя меркаванні аб Аршанскай бітве 1514 года паміж войскамі ВКЛ і Маскоўскім княствам. Перш за ўсё ў вочы кідаецца вялікі ўступ, у якім аўтар накідваецца на прадстаўнікоў "народнафронтаўскай гістарыяграфіі". Далей М.Спірыдонаў падкрэслівае, што мэтай яго артыкула з'яўляецца — "даць навукова абгрунтаванае асвятленне той далёкай, але незабыўнай да нашых дзён бітвы". Своеасаблівым гарантам сваёй беспамылковасці аўтар лічыць "уласныя трыццацігадовыя даследаванні гісторыі Беларусі XIII— XVI ст.ст.".

Выкладанне сваёй канцэпцыі М.Спірыдонаў пачынае з даволі спрэчнага тэзіса аб літоўскім характары ўлады ў ВКЛ у пачатку XVI стагоддзя. Не вытрымлівае ніякай крытыкі і сцвярджэнне аб этнічнай еднасці "людзей рускіх" ВКЛ з насельніцтвам Маскоўскай дзяржавы. Аўтар з усіх фактаў XVI стагоддзя выхоплівае толькі адзін, які даволі добра ўпісваецца ў патрэбную тэарэтычную пабудову. Пункты гледжання іншых гісторыкаў на гэту праблему М.Спірыдонаў проста ігнаруе.

Думка аўтара пра тое, што галоўным фактарам палітычнай і ваеннай слабасці ВКЛ з'яўляліся этнічныя і рэлігійныя супярэчнасці, выглядае слушнай. Але з гэтага зусім не вынікае, што больш моцная суседняя дзяржава мае права праводзіць тэрытарыяльны падзел больш слабай. Нельга чытаць без усмешкі тлумачэнні аўтара аб прававым аспекце "ўз'яднання" ўсіх "рускіх" зямель вакол Масквы. М.Спірыдонаў не захацеў нагадваць аб існаванні падобных ідэйна-прававых абгрунтаванняў на старарускую спадчыну ў ВКЛ. Безумоўна, адносіны паміж ВЛК і Маскоўскім княствам былі складанымі і насілі супярэчлівы характар. Для таго, каб больш дакладна разабрацца ў міждзяржаўных дачыненнях гэтых двух суседзяў, на наш погляд, неабходна вызначыцца ў сутнасці такіх паняццяў, як "ваенна-палітычнае спаборніцтва" і "агрэсія". На жаль, аўтар нават не спрабуе зрабіць гэтага, а складаная праблема ў яго выкананні даволі лёгка вырашаецца з пазіцыі "неабходнасці звароту гістарычнай спадчыны".

Сваім самым буйным козырам у барацьбе з "народнафронтаўскай міфалогіяй" аўтар лічыць аналіз складу войска ВКЛ. Але пры гэтым ён не робіць ніякіх спасылак на гістарычныя крыніцы, што не можа не выклікаць недавер да яго звестак.

Пры апісанні самой бітвы і яе вынікаў гісторык чамусьці давярае толькі расейскім крыніцам. М.Спірыдонаў адмаўляе К.Астрожскага ў палкаводчым геніі на той падставе, што яму супрацьстаялі маскоўскія "самаўпэўненыя гора-ваяводы". Крытэрыі для доказу даволі цікавыя.

Даследчык заканчвае артыкул наступнай думкай: "Гісторыя не церпіць маны, фальсіфікацыі, палітызаванасці". Цяжка з гэтым не згадзіцца. Але нельга не заўважыць, што гэты артыкул не падобны да іншых грунтоўных навуковых прац шаноўнага М.Спірыдонава. Ці не па той прычыне гэта адбылося, што ў барацьбе з палітызаванасцю гістарычнай навукі аўтар сам падхапіў бацылу гэтай цяжкай дрэнна вылечнай хваробы?

**Л.ДЗІКЦЯРОЎ, настаўнік гісторыі Купімскай школы.**

КУР'ЕР "ЧЗ"

### У ЦЭХУ ПАЛЬЦАЎ МЕРЗНУЦЬ ПАЛЬЦЫ

*На Гомельскім заводзе ліцця і нармаляў у некаторых цэхах нярэдка спыняецца работа.*

Прычына празаічная: калі мерзнуць пальцы, багата не наробіш.

### НА ТРОХ МОВАХ –

*грузінскай, рускай і беларускай— высечана імя Кліменція Міхайлавіча Пітнавы на мемарыяльнай пліце, якая даставлена з Грузіі на Курган Славы, што каля в.Гаўлі Буда-Кашалёўскага раёна. Там разам з воінамі іншых нацыянальнасцей пахаваны і грузінскі салдат.*

Помняць яго ў далёкай Грузіі, беражна захоўваюць памяць і мясцовыя жыхары.

**Васіль БАРХАНАЎ.**

ХОБІ

*Ну як не пазайздросціць гомельскім аматарам зімовай рыбалкі! Пасядзець з вудачкай яны цяпер могуць прама ля дома. У мікрараёне "Гомсельмаш" добраўпарадкаваны былыя гліняныя кар'еры, дзе водзяцца карасікі. Цяпер ледзь першы лядок скуе ваду — рыбакі тут як тут. Уловы, праўда, не Бог ведае якія, але ці ж ў гэтым справа!*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.**

ЗА КУЛІСАМІ ВАЙНЫ

# Хто такія чачэнцы і за што яны ваююць?

КАСПІЙСКАЕ МОРА
Р. ЦЕРАК
ДАГЕСТАН
ГРОЗНЫ
УМ. АБАЗНАЧЭННІ
ІНГУШЭЦІЯ
УРУС-МАРТАН
РАЁНЫ АПАЗІЦЫІ
ЧОРНАЕ МОРА

Хто такія чачэнцы? Гэта — старажытны каўказскі народ з тэйпавымі (сваяцкімі) адносінамі, якія ўстаяліся здаўна. Тэйп — гэта нават нешта большае, чым чыста сваяцкія адносіны, ён захоўвае рысы этнакультурнай самастойнасці. Узаемаадносіны паміж тэйпамі будуюцца на парытэтных пачатках кроўнай помсты. З часоў грамадзянскай вайны ў Расіі многія чачэнскія тэйпы па-ранейшаму фармальна знаходзяцца ў стане кроўнай помсты.

Сучасная тэрыторыя Чачні прыблізна адпавядае гістарычнаму рассяленню чачэнскіх тэйпаў. З поўначы Чачня мяжуе са Стаўрапольскім краем, ад якога ў свой час да Чачні адышлі Наўрскі і Шэлкаўскі раёны. Сёння казацтва патрабуе прызнаць суверэнітэт Чачэнскай рэспублікі ўзамен на гэтыя два раёны.

На захадзе знаходзіцца Інгушэцыя, якая захоўвае свае прэтэнзіі на Прыгарадны раён Паўночнай Асеціі. На поўдні і ўсходзе суседам Чачні з'яўляецца Дагестан. На граніцы Чачні і Дагестана (з таго і другога боку) жывуць пераважна чачэнцы і блізкія да іх аварцы, якія гатовы ў любы момант падтрымаць "братоў".

За сваю гісторыю чачэнцы тройчы ваявалі з Расіяй: у 1785 годзе — на чале з Ушурмам; у 1817—59 пад кіраўніцтвам Шаміля, а ў 1919 — супраць Дзянікіна.

Да 1990 года ў Чачэна-Інгушскай АССР жыло каля 2,5 мільёна чалавек, з іх прыблізна 450 тысяч рускіх. Пасля "скасавання шлюбу" з Інгушэціяй і перыяду "прымусовага" суверэнітэту цыфры гэтыя адрозніваюцца. Агульная колькасць жыхароў Чачні, паводле розных даных, вагаецца сёння ад 1,2 да 1,5 мільёна, а лік рускіх — ад 150 да 200 тысяч.

Чачэнская рэспубліка займае адну з ключавых геастратэгічных пазіцый на Каўказе. Праз Чачню праходзяць "жыццёвыя артэрыі Каўказа" — чыгунка і аўтатраса Растоў—Баку. Акрамя таго, Грозны з'яўляецца своеасаблівай засаўкай на нафтаправодзе Баку—Новарасійск. Гэты нафтаправод, напэўна, галоўны козыр Расіі ў барацьбе з Турцыяй за права транспарціроўкі каспійскай нафты.

*"Комсомольская правда".*

